# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу Беларуск. Сялянска-Работніцкай Грамады

№ 8 | Вільня, Серада, 31-га сакавіка 1926 г. | № 8




## Прамова

**дэпутата Сабалеўскага (Сялянска-Работніцкай Грамады), сказаная на паседжаньні Сойму 24 сакавіка 1926 г., у часе дыскусіі над справаздачай Камісіі для рассьледаваньня вастрогаў у Польшчы.**

Паны! Соймавая камісія, пакліканая на тое, каб рассьледаваць палажэньне ў вастрогах у Польшчы, здала Сойму, лічыць, пасьля двох гадоў справаздачу, якая мела-б быць вычэрпываючым матэр'ялам для дыскусіі ў гэтай справе і магла-б служыць матэр'ялам для зьмены ўставаў, датычачых вастрожніцтва.

Я, як да нядаўна быўшы палітычны вязень, пазволю сабе сцьвердзіць, што зьяўляюся болей компэтэнтным у стане вастрожніцтва ў Польшчы, чым пакліканая на гэта соймавая камісія, і маю поўнае права жорстка крытыкаваць пададзеную нам справаздачу. Я ўжо сказаў, што стан польскага вастрожніцтва мне знаны з уласнага сумнага досьледу. Бо быў я трыманы польскаю ўладаю ў вастрозе, лічыць, у працягу дзесяцёх месяцаў, а на свабодзе знаходзіўся ледзьве два месяцы. Не адведаў я—што праўда—як соймавая камісія, 24 вастрогаў, ня бачыў і не рассьледаваў вастрожніцтва ў Польшчы ў працягу двох гадоў, аднакжа сцьвярджаю, што бачыў і перажыў усё гэта ў поўнасьці. Бачыў тое, чаго камісія не магла, або не хацела бачыць. Потым на падставе многіх расказаў вязьняў, якія былі ў іншых, ня ведамых мне з асабістага досьледу, вастрогах, пазнаёміўся з жыцьцём і адносінамі ўва многіх польскіх вастрогах.

Сцьвярджаю, што справазданьне камісіі аб адносінах, пануючых у польскіх вастрогах, ня можа служыць адпаведным матэр'ялам для дыскусіі над пытаньнем аб вязьніцтве, бо 1) не абыймае цэласьці пытаньня, памінаючы паліцэйскія арышты і 2) не дае навет у прыблізнасьці паняцьця аб ненармальнай рэальнасьці вастрожнага жыцьця.

У справаздачы камісіі ня ўзята пад увагу ўсіх мамэнтаў, якія складаюцца на факт пазбаўленьня вольнасьці грамадзяніна. Толькі некалькіма фразамі абыйшла камісія паліцэйскія арышты, — тое пекла, праз якое праходзяць палітычныя вязьні. — Там-жа вымушаюць паказаньні пры помачы электрычнага току, б'юць гумовымі кіямі, уліваюць у нос ваду, б'юць ў пяты і г. д. Гэта не галаслоўныя закіды. На жаданьне магу падаць доўгі рад датаў і прозьвішчаў.

Стан вастрогаў, прадстаўлены ў справаздачы, зусім не адпавядае рэальнасьці. Камісія сцьвердзіла наагул моцнае перапаўненьне ў вастрогах, падчырківаючы „колёсальнае перапаўненьне“ ў Лодзі і Роўным, дзе на аднаго вязьня прыходзіцца каля 2 кубічных мэтраў паветра.

Паны, там прасторна ў параўнаньні з арыштам у Стоўпцах. Ваабразеце сабе малыя, мокрыя паграбы, поўцёмныя, куды сьпіхаюцца, ня лічачыся з месцам, разам мужчыны, кабеты і дзеці.

На падлодзе поўна гразі — вошы, смурод, перапоўненыя дзіравыя гаршкі. У гэтакіх абставінах пратрымоўваюць там няраз людзей і па некалькі месяцаў. Аб лазьні няма там і мовы. Мястовым вязьням памагаюць сем'і, але значны % складаюць там вязьні замястовыя.

Яшчэ горай прадстаўляюцца нясьвіскія арышты; хата служыць вастрогам. Начныя гаршкі бываюць выстаўлены на дзень, а адміністрацыя неахвотна выводзіць вязьняў у дзень да адходку. Дзеля гэтага ўцёрся там звычай выкарыстаньня для гэтага дзіраў у падлодзе. Усе вязьні завашывены. Аб праньні вопраткі няма там і мовы. Вастрожны доктар п. Крупска прапанавала завясьці вязьняў да блізкага возера, каб хоць там вязьні ўмыліся. Але адміністрацыя адкінула гэты праэкт, баючыся, каб вязьні не паўцякалі. Ані ў Стоўпцах, ані ў Нясьвіжы вязьні не карыстаюць з прагулкі.

Страшныя таксама і этаповыя гмінныя арышты. Месьцяцца яны звыкла ў гмінным будынку, далёка знаходзямчыся ад пастарунку паліцыі, на падлодзе жменя саломы, якой ніколі не зьмяняюць, выходку ані гаршка зусім няма.

У гэтых памяшчэньнях прабываюць няраз дзесяткі вязьняў, сагнаных з пагранічча. Толькі моцным пратэстам здабываюць сабе часамі вязьні жменю сьвежай саломы ад стоража, якога да гэтага ніякія правілы не абавязваюць. Аб варунках вастрожнага жыцьця ў Наваградку магу гаварыць, ведаючы ўсё з уласнага досьледу, бо там сядзеў сам. Вось—як, напрыклад, выглядае гігіена вастрогу ў Наваградку. Пакой для лазьні можа памясьціць найболей 8—10 асоб. А ўводзяць туды да 30 вязьняў. Аб мыцьці ня можа быць і мовы з-за цеснаты, урэшце, і вады даюць 3 — 4 міскі. Трэба сказаць, што ніякіх пасудзінаў для ўмываньня няма і вязьні йдуць у лазьню з тымі самымі міскамі, з якіх ядзяць. Для разьдзяваньня служаць неапальваныя сені бяз лавак і вешалкі. Узімою вязьні стараюцца як-найхутчэй прабегчы напоўгола з лазьні ў вастрожны пакой і тут толькі адзяваюцца. На падлодзе гразі прынамся на цаль таўшчынёю. Усе вязьні купаюцца ў адзін дзень, бяз розьніцы — многа ці мала вязьняў. Лазьня бывае раз на два тыдні, або раз на месяц. Гэта вытлумачваюць ашчаднасьцяй. Не перашкаджае гэта аднак устройству на кошт вызначаных для вязьняў сум лазьні для судовых урадоўцаў і ксяндзоў з места. Гаршкі і бляшанкі ў вастрозе дзіравыя, у падлозе таксама дзіры. Гаршкі не апарожніваюцца часьцей як два разы ў суткі. За час майго сямімесячнага прабываньня ў Наваградзкім вастрозе не зрабілі ані разу дэзынфэкцыі гаршкоў і таксама ані разу ня былі застасованы ніякія меры, каб іх ачысьціць ад прыкрага запаху. Дзякуючы гэтаму, у вастрозе заўсёды паветра затрута воняй з гэтых сьмярдзячых гаршкоў.

У гэтакіх варунках адбываюць вязьні сьледчыя і карныя арышты. Калі-б каму гэта паказалася неправдападобным, то магу падаць прозьвішча і даты: у Наваградку сядзяць Пясевіч і Лагіена блізка два гады, у Вільні на Лукішках — Арэхаў—тры з паловаю гады, Янка і Петр Дзік і Антон Сьпірыдановіч — два з паловай гады, Дзевятнікаў балей як два з паловаю гады і гэта ўсё бяз судовых прыгавораў. (Голас: бяз актаў абвінавачваньня навет). У справаздачы камісіі ўпамінаецца аб залічэньні дасудовага арышту і звальненьні засуджаных пасьля адбыцьця $^{2}/_{3}$ кары ў сьледчым вастрозе. А фактычна мае гэта застасаваньне, калі прыгавор засуджвае вязьня на дом паправы. Засуджанаму на катаргу не залічваюць навет сьледчага арышту. Дараваньне $^{1}/_{3}$ кары стасуецца толькі да крымінальных вязьняў, ад палітычных-жа вымагаецца ў гэтакіх выпадках падпісаньня дэкляраны, зьместам якой зьяўляецца акт пакаяньня і абяцаньня паправы. Гэтым самым пазбаўляецца палітычнай прывілегіі. У справе кармленьня вязьняў устаноўлена ў засадзе 2.400 калёрый. У жыцьці, аднак, ня мае гэтая засада застасаваньня, бо ўводзіцца перадусім сыстэма ашчаднасьці.

Сцьвярджаю, што ў Наваградку ў часе майго дзяжурства ў вастрожнай кухні увялі порцыю да 1685 калёрыяў, а навет лепей, бо, напрыклад, бульбу лічаць у мяшку разам з гразяй і адходкамі. Увосені на адходкі бульбы прыходзіцца да 30% агульнай вагі, а вясною — 50%. За тлустасьць ужываецца выключна лой. У Белымстоку адміністрацыя ўтрудняе помач вязьням прадуктамі, што ім прыносяць сваякі.

У паліцэйскіх арыштах у гмінах арыштаваных зусім ня кормяць. (Палякевіч: чымсьці, аднак, мусяць жыць). Падаяньнямі.

Камісія сцьвердзіла, што вастрожны абед раўняецца 3.000 калёрыяў. Не сумняваюся, што гэтак было фактычна ў дні адведзінаў вастрогу камісіяй, але не хачу таксама нікога западозрываць у гэтак вялікай наіўнасьці, каб верыў, што так бывае і ў тыя дні, калі камісіі няма. Вастрожная кухня, навет, мае сваё „меню“, часамі ніштo сабе называнае, напр. „рыс папольску з пячонкай“. Гэта ёсьць проста грубы чорны пугок з сьвіною пячонкаю замест мяса. Байкай зьяўляецца таксама, што працуючыя вязьні атрымоўваюць 400 грамаў хлеба, як дадатак.

Магу пасьведчыць, што наваградзкія вязьні, якія некалькі тыдняў працавалі пры тынкаваньні наваградзкага вастрогу, што — трэба сказаць — было справай прыватнага прадпрыемства — не атрымалі ані вынагроджаньня ані дадаткавага кармленьня. Доказам вялікай наіўнасьці служыць і тое, што камісія ў сваёй справаздачы паказала, што вязьні казалі, „што атрымоўваюць прадпісваныя нормы кармленьня“.

Перад усім, паны, у вастрозе пануе тэрор, а скарга на адміністрацыю вымагае з боку вязьня пэўнай дозы адвагі і ахвярнасьці — тымбольш, што вязьні — добра здаюць сабе адчот з безрэзультатнасьці „вадай“ камісіі. Пазагэтым у польскім судзе пануе гэткая сыстэма, што адміністрацыя вастрогу дае аб вязьню апінію, што мае лучнасьць з вымерам кары і залічэньнем сьледчага вастрогу да кары. Гэта зьяўляецца яшчэ адным спосабам тэрарызаваньня вязьня. Вязьні ня маюць звычаю скардзіцца, бо ведаюць, што няма каму скардзіцца. Пракурор з засады зусім пасыўна адносіцца да скаргаў вязьняў. За час майго 7-месячнага прабываньня ў наваградзкім вастрозе пракурор ані разу не заглянуў у вастрожнае жыцьцё, а на нашыя скаргі зусім не рэагаваў. Памятую, напрыклад, што сам асабіста безрэзультатна інтэрвэняваў да адміністрацыі, каб пазволілі зьмяніць салому ў сяньніку, хоць бы на свой уласны кошт, бо была сьцярушана на порах, які засыпаў вочы майму суседу з „маліны“ (гэтак завецца вастрожнай мовай спальня пад нарамі).

У справаздачы камісіі таксама гаворыцца аб астрожных бальніцах і аб дахторскай помачы для вязьняў. Гэта толькі фразэсы, пекныя этыкеты. Лячэньне вязьня ўважаецца за зусім непатрэбную рэч, а значыць пануе перакананьне, што вязень ня варт таго, каб яго лячыць. У наваградзкім вастрозе працуе фэльчар Скаповіч і мушу прызнаць, што гэта выняткава сумленны чалавек. Але што ён зробіць сваім добрым жаданьнем, калі ня мае ён навет найпрымітўнейшых інструмэнтаў і лякарства. Даволі сказаць, што няма ў яго „амбуляторыі“ навет міскі для мыцьця рук пасьля агледзінаў хворага. Памятую, што мой сусед, вязень Пясевіч захварэў на запаленьне сярэдняго вуха, паводле дыагнозы гэтага-ж фэльчара. Некалькі дзён трэба было, каб зрабіць бюракратычныя фармальнасьці, каб урэшце зьявіўся дохтар, які адаслаў хворага ў бальніцу. Настаў зноў рад фармальнасьцяў і аказалася, што ў бальніцы няма месца і вязьня зноў прывялі ў вастрог, пакінуўшы яго на ласку лёсу.

Будучы ў вастрозе ў Вільні і я захварэў на ангіну і чуўся вельмі блага — вычуў, што фармуецца ў мяне нарыў. Зьвярнуўся я да фэльчара, каб прынамсі палажыў мне кампрэс, але ён мне адмовіў і адаслаў мяне да дохтара. Дохтар не пазволіў мне навет за ўласныя грошы купіць лякарства і сказаў мне выйсьці за дзьверы. Лячыўся сам, зрабіўшы сабе кампрэс з ручніка і шкарпэтак. У доказ праўдзівасьці гэтага магу падаць сьведкаў. Скардзіўся я потым пракурору, які аб'ясьняўся тым, што прызначаныя на ўтрыманьне дохтара срэдствы так невялікія, што змушаны ён браць такога дохтара, які сам згодзіцца на „ахвотніка“.

Сьвятакрыскі вастрог зьяўляецца катавальняй куды высылаюць людзей на дзікае і павольнае катаваньне. Навет павярхоўнае рассьледаваньне камісіі ўстанавіла, што ўсе вязьні хварэюць на вочы, дзякуючы невыстарчаючаму кармленьню, што аграваньне невыстарчаючае, што ў будынках нябывалая мокрацць і што пастрашаючы працэнт вязьняў уміраe на сухоты. Якія адносіны адказнай сфэры да вязьняў, сьведчыць аб гэтым факт, што пасьля бунту ў сьвятакрыскім вастрозе, які быў магутным актам адчаю людзей, баронячыхся перад дзікасьцяй павольнага катаваньня, суд патрактаваў вязьняў як „бунтуючыхся праступнікаў“ паміма таго, што тады былі ўжо ведамы рэзультаты рассьледаваньня камісіі ў гэтай катавальні сьвятакрыскай. Вастрожная адміністрацыя заглядаецца на вязьняў, пазбаўленых вольнасьці, як на ворагаў, якіх можна бяскарна мучыць і зьдзекавацца. Напр., знаны мне асабіста начальнік вастрогу Сурмінскі, урадуючы цяпер у Роўне, ёсьць безгранічны, брутальны сатрап, які ня ведае іншых мэтодаў у адносінах да вязьня, як толькі рэпрэсіі. Пры кожнай магчымасьці, калі паводле яго, вязень нарушае рэгулямін, стасуе ён цямніцу, а ў выпадку пратэсту закоўваньне ў кайданы і лье некалькі вёдзер халоднай вады на галаву, ня гледзячы на пару году і стан здароўя вязьня. Сцьвердзіў я таксама, што яго сыстэма ўпраўленьня апіраецца на правакацыі. У кожнай камэры памяшчае свайго заушніка прывілегіраванага ім, які тэрорызуе рэшту вязьняў.

Адміністрацыя п. Сурмінскага ўважае, што задачы яе зводзяцца толькі да пілнаваньня ключоў ад вастрожных камэраў і выбіраньня сярод вязьняў здольных рамесьленікаў, якімі бясплатна карыстаецца п. начальнік і яго сям'я. Крэдыты, празначаныя на апальваньне вастрогаў — наагул невыстарчаючыя, а адміністрацыя аднак-жа аграничае і гэтыя сумы. Аб гэтым пераканаўся я асабіста, будучы ў турме ў Наваградку. Вастрог той і так вельмі мокры, а з прычыны неапальваньня вада цячэ па сьценах. Надбудавалі там другі паверх і гэтая „новачасная“ будова пад кожным узглядам далёка горшая ад той часткі будынку, якая была раней збудавана — ў часы паншчыны. Вокны на палову меншыя, чым у старой частцы будынку. Вэнтыляцыі зусім няма, а печы недатасаваны да разьмераў камераў. Цямніца разьмерам 1 × 3 мэтраў зусім бяз печы, нараў і вакна. Падлога — бэтонная, а дзьвёры ня шчыльна зачыняюцца. Вязень, які прабыў там хоць два дні, выходзіць стуль напаўатруты і напаўсьляпы. Слонімскі вастрог застаўся з часоў Мікалая II. Адмі-

ністрацыя прызнала, відаць, гэты будынак за надта раскошны для вязьня і таму замуравала да паловы вокны. Паміма таго, што вострожны рэгулямін наказвае даць вязьню працу, каб мог ён зарабляць, адміністрацыя ўважае, што, даючы працу вязьню, робіць вялікую і асаблівую ласку.

Найлепшыя рамесьленікі-спэцыялісты атрымоўваюць за сваю працу па 10—20 грошаў у дзень, што іх толькі зьнеахвочвае да працы. Адказныя органы і грамадзянства зусім ня ведаюць аб гым тэроры і брутальным абходжаньні з вязьнямі. Для дасяжэньня гэтай мэты адміністрацыя паслугоўваецца апрача часнай цэнзуры, таксама спэцыяльнай сыстэмай застрашваньня і тэрарызаваньня вязьняў.

Справаздача камісіі для рассьледаваньня вастрогаў кажа аб вастрозе ўва Вронках, што вастрожныя варункі ўва Вронках лепшыя, чым у Белымстоку. Няведама на падставе чаго камісія вынесла гэтакае ўражаньне. Я, як быўшы вязень, сцьвярджаю, на падставе сабраных вестак, што Вронкі зьяўляюцца страшылішчам для ўсіх вязьняў ў Польшчы, а вывожваньне ўва Вронкі стасуюць адміністрацыі іншых вастрогаў, як дысцыплінарную кару. Тэрор, стасованы ўва Вронках, зводзіцца да пазбаўленьня вязьня ўсялякага пачуцьця свае годнасьці.

Навет камісія ўстанавіла, агульна ўжо сяньня ведамы факт змаганьня вязьняў голадам ў абароне сваіх правоў. Галадоўкі ў вастрогах Польшчы сёньня зьяўляюцца штодзенным здарэньнем і заўсёды правакуюцца вастрожнай адміністрацыяй, якая даводзіць вязьняў рэпрэсіямі і брутальнасьцяй да адчаю. Вастрожны рэгулямін для палітычных вязьняў дапушчае чытаньне ўсіх легальне выходячых газэтаў і кніжак. Вастрожная управа, аднак, сабатуе і гэтае права палітычных вязьняў і ўводзіць сваю ўласную цэнзуру. Сыстэматычна не дапускаюць газэтаў, выходзячых у беларускай, украінскай і жыдоўскай мовах. Польскія газэты таксама жорстка цэнзуруюцца, так што навет у „Kur. Polskim“ або ў „Kur. Warsz.“ цэлыя бачыны выцінаюцца. Больш радыкальных газэтаў вастрожная цэнзура зусім не дапушчае. Гэтак сама робіцца з кніжкамі.

Сцьвярджаю, што загад Мін. Макоўскага з 1922 г. рэгулюючы вастрожнае жыцьце зусім ня мае застасаваньня ў вастрогах — асабліва ў Вялейцы, а вострожныя кіраўнікі адкрыта і цынічна кажуць, што ня лічаць патрэбным дастасоўвацца да гэтага загаду.

Пракурорская ўлада зусім солідарызуецца ў гэтым з вастрожнай адміністрацыяй. Вастрожны рэгулямін, вывешаны на сьценах камэраў, паходзіць хіба яшчэ з кайзараўскіх часаў. Пералічаны там толькі абавязкі вязьняў, і ані слова няма аб правох для вязьняў на падставе загаду Макоўскага. Адміністрацыйныя правілы ў засадзе не дапушчаюць біцьця вязьняў, аднак-жа, не зьяўляецца сёньня гэта ніякай тайнай, што гэта толькі нікога не абавязваючая конституцыйная дэкорацыя. Дэфэнзыва ня толькі дзікім спосабам б'е, але ганебным спосабам катуе і паддае пыткам арыштаваных. Гэта — сыстэма стасаваная, як засада, да палітычных вязьняў. Цынічная свабода, з якой праводзіцца гэтая ганебная сыстэма, і поўная бяскарнасьць за гэтыя праступкі зьяўляюцца нязапярэчаным доказам, што гэтая сыстэма пануе ў Польшчы са згоды Ураду, які апірае свае пананаваньне на штыху жандарма.

Для ілюстрацыі магу падаць наступны факт. У наваградзкай школе „przodowników“ пракурор сказаў слухачом, што — праўда — біцьцё ў засадзе не дапускаецца, але, калі можна дагадацца, што арыштаваны мог-бы выкрыць ведамыя яму факты, — рэкамандуецца стасаваньне да яго націску на псыхіку. На гэтым затручаным груньце буйна расцьвіла правакацыя і катаваньні. (Горадзенскі працэс — пісьмо Енцэвіга).

Вось ілюструючыя факты: 28 кастрычніка падчас масавых арыштау у Нясьвіскім пав. арыштавалі Міхала Карповіча з в. Трашчыцы, Нясьв. пав. і прывязьлі на пастарунак дзярж. паліцыі ў Ніцавічу, дзе напісалі пратакол на арыштаванага. Кіроўнік экспазытуры Пухальскі, функцыянэр Міхал Сулетыцкі, Дэц і іншыя, каб змусіць арыштаванага падпісаць сфабрыкаваны паліцыяй пратакол, стасавалі да Карповіча наступныя пыткі: вырывалі ў яго валасы з галавы, білі кулакамі ў твар, па носе і па ўсім целе, убівалі шпількі пад ногці, білі гумовымі кіямі ў пяты, калолі цела голкамі і білі шомпаламі, прыціскалі пальцы паміж дзьвярыма, на паваленага на зямлю сядалі каты і білі яго равольвэрамі па горле і па найбалей чулых мясцох. На закончаньне прыстаўлялі яму равольвэр да галавы, пагражаючы, што застрэляць.

Уначы з 31 кастрычніка на 1 лістапада паўтарылі зноў вышэй апісаныя катаваньні, прычым функцыянэр паліцыі Міхал Сулетыцкі так моцна ўдарыў арыштаванага па вуху, што лопнула барабанная балонка. Білі і катавалі 22 вязьняў у Саколцы. Уначы з 15 на 16 сьнежня мінулага году арыштавалі і пасадзілі ў вастрозе ў Саколцы 22 чалавекі, паміж іншымі кандыдата выбарнага з сьпіску № 16 у Сойм Польскай Рэспублікі, Віцэнта Чэховіча. Усе арыштаваныя былі біты і катаваны дэфэнзывай, якая заўсёды карыстаецца гэтым мэтадам, каб вымусіць паказаньні. Асабліва дзікім і варварскім спосабам быў катаваны Уладз. Шах. Зьвязалі аго такім чынам, што далоні абнімалі ступені сагнутых ног, а праз сагнутыя калені і локці працягнулі шаблю. Гэтак зьвязанага білі. Аб тым, як яго білі, сьведчыць факт, што біты, ламошучыся, паламаў шаблю, якую працягнулі яму між ног і рук. Акрамя гэтага ўлілі яму некалькі бутэлек вады з оцтам праз нос.

Ад Антося Сіцько, жыхара в. М. Бераставіца, Горадзенскага пав., цяпер знаходзячагася ў Горадзенскім вастрозе, атрымаў я пісьмо наступнага зьместу: „Арыштавалі мяне 9 ліпня 1925 г. Адначасна паліцыя зрабіла дакладны обыск у маім памешканьні і обыск ня даў ніякіх абцяжваючых матэрыялаў. Потым адвязьлі мяне закутага ў кайданы на пастарунак дзярж. пал. ў Вялікай Берастаўіцы, дзе сьпісалі пратакол і зажадалі выясьненьняў аб дзейнасьці камуністычнай партыі. Дзеля таго, што не зьяўляюся сябром гэтай партыі і ніколі нічога ня меў супольнага з яе дзейнасьцяй, — ня мог даць ніякіх інфармацыяў аб ёй. Тады адаслалі мяне на пастарунак дзярж. пал. ў Сьвіслачы, прычым перасыланьне гэтае адбылося гэтак: ляжаў я наўзнак на возе, а рукі мне прыкавалі ланцугамі да дзьвёх процілеглых драбінаў воза. Сьвіслач ад В Берастаўіцы знаходзіцца ў 45 вярстох. У Сьвіслачы зажадалі ад мяне паказаньняў аб якімсьці сходзе, аб якім аднак, я нічога ня ведаў і ні ад кога нічога ніколі ня чуў. Не атрымаўшы ніякага адказу, началі мяне дзіка біць і катаваць, упарод агэнт тайнай паліцыі Махура ўдэрыў мяне так моцна ў галаву, што зваліўся я на зямлю. Потым зьнялі ў мяне абуцьце з ног, пералажылі мне локці праз паложаны на плячах кол, сагнулі ногі ў каленях і прыкавалі іх да рук. Тады накінулі мне на голаву якісьць кажух, хтосьць з функцыянэраў сеў мне на грудзі і пачалі біць калом у пяты. Білі тры функцыянэры на зьмену, прычым атрымаў я 60 удараў, потым улілі мне праз нос бутэльку вады. Пасьля раскуцьця паставілі мяне босымі нагамі на залітай вадою подлозе і вымагалі, каб паўтараў я паказаньні паводле дыктоўкі паліцыі. Дзеля таго, што я адмовіўся, пачаў зноў мяне біць той самы агэнт Махура калом па шыі. Ня могучы болей зносіць гэтага катаваньня, я згадзіўся падпісаць прыгатаваны паліцыяй пратакол, са зьместам якога навет і не пазнаёмілі мяне. Гэтак скончылася „badanie“ і пратакол на пастарунку дзярж. пал. ў Сьвіслачы.

Пасьля гэтага катаваньня я так быў хворы і аслаблены, што 4 дні ляжаў чуць жывы там-жа на пастарунку і паліцыя была змушана перарваць усялякае „badanie“. Потым перавязьлі мяне скутага ў Ваўкавыскую экспозытуру, дзе пытаў мяне сьледавацель у прысутнасьці каманданта пастарунку дзярж. паліцыі.

Перавязьлі мяне ў Горадзенскі вастрог, дзе сядзеў я каля 2 месяцаў. 21 верасьня ўкінулі мяне ў цёмную лёху. Пасьля двох дзён перавязьлі мяне аўтамабілем да памешканьня старосты, дзе зноў выпытвалі мяне аб якойсьць няведамай мне арганізацыі. Якісьці няведамы мне паліцыянт намаўляў мяне, каб абвінаваціў я ў гэтай справе якога-нібудзь жыда. Ня мог нічога сказаць, бо нічога ня ведаў аб гэтай справе.

Тады ўсадзілі мяне ізноў у аўтамабіль, у які сеў таксама і горадзенскі стараста, і адвязьлі на пастарунак дзяржаўнай паліц. ў М. Берастаўіцы. Да вечара пакінулі мяне ў спакоі. Увечары пазачынялі акяньніцы, паставілі стражу кругом пастарунку і пачалі мяне „бадаць“. Зноў зажадалі ад мяне, каб сцьвердзіў, што належу да камуністычнай партыі. Калі адмовіўся — пачалі катаваць. Катаваньне гэтае цягнулася цэлую ноч. Скутага і зьвязанага білі мяне ў пяты, білі нагамі, а адзін з катаваўшых скочыў мне на грудзі і таптаў мяне нагамі. Пасьля білі мяне калом па галаве, грудзёх і плячах, убівалі шпількі мне пад ногці, так што ад болі самлеў. Калі ляжаў напаўабамлелы, адзін з паліцыянтаў так моцна ўдэрыў мяне ботам у твар, што выбіў мне зуб. Потым страціў я прытомнасьць, і прачхнуўся толькі на другі дзень у палудзень. Ляжаў я ў кухні гэтага пастарунку, каля мяне сядзеў адзін з маіх начных катаў і абціраў сьпіртам рот і ўліваў мне сьпірт у рот. Каля мяне стаялі ужо дзьве пустыя бутэлькі. Мучыўся я страшэнна і прасіў, каб паклікалі дохтара. Просьбы мае ня споўнілі. Ляжаў я хворы і вельмі мучачыся ў кухні цэлы тыдзень. У тыдзень толькі прывязьлі дохтара з Крынак, які мяне агледзеў.

У той жа дзень прыехаў горадзенскі староста і абяцаў мне вольнасьць пад варункам, што я падпішу сфабрыкаваны паліцыяй пратакол. — Я адмовіўся. Адаслалі мяне ў вастрог да Горадні. Спачатку памясьцілі ў агульнай камэры, так што мой цяжкі стан і зробленыя мне раны бачылі вязьні: Янка Яковчыг, Даніла Ранецкі, Антон Самойла, Антон Семяняка, Пётра Чаплюк. Потым перанесьлі мяне ў пустую камэру. Так я быў хворы, што сторож спытаў мяне, ці паклікаць мне бацюшку. Прасіў я, каб паклікалі дохтара. Зараз мяне агледзелі, перавязалі,—у той камэры праляжаў я адны суткі. Пры мне, хворым, быў Уладзімір Леванчук. Потым перанясьлі мяне ў вастрожную бальніцу. Быў цяжка хворы і бязуладны, так, што праз два тыдні мусіў мяне даглядаць, карміць, варочаць з боку на бок сторож Тодар Ярамейчык. Пасля 36 дзён перанясьлі мяне зноў у вастрог, паміма таго, што быў хворы і ня мог хадзіць, маючы параненыя ногі. Чуюся блізка сьмерці“.

А вось другі факт:

„Да Пав. Пана Дырэктара Беларускае Гімназіі ў Вільні,

вучня VII кл. Юльяна Саковіча.

ПРОСЬБА.

Гэтым шчыра прашу Пав. Пана Дырэктара пазволіць мне прадоўжыць гэтагодныя Калядныя канікулы на 4 дні, г. зн. да 13 студзеня 1926 г., а то з наступных прычын: Уначы з 7 на 8-га сьнежня мінулага году, як ведама Пав. Пану Дырэктару, я быў арыштаваны палітычнай паліцыяй м. Вільні пад закідам належнасьці да камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Ня гледзячы на тое, што ніякіх доказаў на тое, каб рабіць мне гэткія закіды ня было, пратрымалі мяне ў Лукішскім вастрозе цэлы месяц і толькі сёньня я звольнены.

Хацеў-бы паехаць да бацькоў, якія вельмі занепакоены гэткім неспадзяваным страшным здарэньнем са мною, каб хоць трохі адпачыць пасьля перанясеньня гэтулькі маральных і фізычных цярпеньняў.

Пасьля арыштаваньня мяне, відаць, на падставе якіхсь правакацыйных абвінавачваньняў, хочучы змусіць мяне да фальшывых паказаньняў проці маіх зьверхнікаў, агэнты палітычнай паліцыі нялюдзкім спосабам зьдзекаваліся нада мною ў памяшчэньні экспозытуры пры Палітычнай Паліцыі ў Вільні пры Завальнай вул. Білі мяне па твары, потым зьнялі гамашы і гумовымі прутамі білі ў пяты. Арыштаваны быў я з прычыны абвінавачваньня мяне маім суседам С. Андрыновічам з в. Ракоўцы, Крэўскае гміны, Ашмянскага пав., якога змусілі абвінавачваць мяне агэнты палітычнай паліцыі, зьдзекваючыся над імі таксама дзікім спосабам (як падніманьне за валасы, біцьце зялезнымі і гумовымі прутамі ў пяты і г. д). Адначасна з гэтым, абяцаючы яму выпушчэньне на волю і навет грашавую нагараду ў тым выпадку, калі скажа сьледавацелю тое, што яму скажа палітычная паліцыя. Толькі пасьля трох тыдняў прабыцьця гэтага чалавека ў вастрозе на Лукішках, пасьля таго, як ён пераканаўся, што паноўна катаваны быць ня можа, а таксама мучаны ўгрызеньнем сумленьня, памянуты Андрыновіч сказаў сьледавацелю праўду, расказваючы яму аб тых муках, якія зьнёс пры палітычным „badaniu“.

Усіх агэнтаў я мог-бы пазнаць і паказаць, але баюся зноў трапіць у іх лапы. Даволі таго, што ў ліку тых асоб, якія зьдзекаваліся нада мною, былі асобы у шапках студэнтаў Унівэрсытэту Сьцяпана Баторага ў Вільні“.

Дня 8 студзеня 1926 г. Вільня.

(—) Ю. Саковіч.

Іншаму вучню гэтае-ж гімназіі — Янэлю пры палітычным „баданьні“ прабілі барабанную балонку, што дохтарам сьцверджана.

Далей справа сфабрыкаваньня дэфэнзывай вялікага палітычнага судовага працэсу ў Горадні, які меў меў месца ў канцы мінулага году.

На судзе выясьнілася, што ўвесь акт абвінавачваньня ў гэтым працэсе проці іх пабудаваны быў на беспадстаўным і правакатарскім даносе канфідэнта палітычнай паліцыі. На судзе выясьнілася, што галоўны абвініцель паліцэйскі агэнт Коппель, выкарыстоўваў свае становішча, вымагаючы грошы і задаваляючы свае эротычныя справы, што пагражаў сваім ахвярам, калі адмаўлялі,—паліцэйскім даносам і што дзеяў ён у паразуменьні з іншымі функцыянэрамі паліцыі. Прыгнятаючае сьвятло кідаюць на гэтыя адносіны паказаньні сьведкі Квяцінскага. А іменна паказаў ён, што напярэдадні суду камандант паліцыі ў Крынках—Віттэр (які сам быў сьведкаю на судзе) прасіў сьведку Здановіча, „каб не гаварыў праўды на судзе“. Паўторна пытаныя сьведкі паліцэйскі Здановіч і функцыянэр палітычнай паліцыі Ліс пацьвердзілі паказаньні Квяцінскага.

Суд быў змушаны апраўдаць усіх абвінавачаных у ліку 33.

Абвінавачаныя прасядзелі ў сьледчым вастрозе—лічыць—тры гады.

Вастрожныя адносіны ў Польшчы характэрызую толькі павярхоўна, бо для дэтальнага разгляду гэтай справы трэба было-б напісаць некалькітомавую кнігу, але, аднак, і тое, што ведаў, упаважняе мяне вывесьці наступных рэзалюцыяў: цяперашні ўрад стараецца паправіць катастрафічны білянс капіталістычна-мілітарнай Польшчы коштам сялянскай і работніцкай клясы, якую цісьне ўсім цяжарам свае капіталістычнай „санацыі“. Беспасярэднім цяжарам гэтага стану рэчы зьяўляецца павялічаны тэрор да клясы працоўных. Палітычная паліцыя ў Польшчы мае неабмяжованыя правы для арыштоўваньня і катаваньня тых прадстаўнікоў клясы працоўных, якія ня хочуць пакорна моўчкі нясьці капіталістычнае ярмо.

Польскія вастрогі здабылі сабе ўжо шырокую і ганебную славу навет паза граніцамі дзяржавы. Найлепшай ілюстрацыяй пануючых там адносінаў зьяўляюцца бесперастанку выбухаючыя там магутныя галадоўкі, якія зьяўляюцца актам адчаю вязьняў у абароне найболей прымітыўных правоў, прыслугоўваючых вязьням паводле абавязваючых правілаў, або актам пратэсту проці біцьця і зьдзекаў. Але вастрогі гэтыя зьяўляюцца яшчэ раем у параўнаньні з паліцэйскімі арыштамі, якія запаўняюцца людзьмі, ня маючымі за сабою ніякіх грахоў і правіненьняў, апрача свае прыналежнасьці да клясы працоўных і сьвядомасьці аб гэтай прыналежнасьці. Агэнты дэфэнзывы стасуюць да іх усю сыстэму выраблённых катаваньняў, якіх не паўстыдалася-б і цёмнае сярэднявечча,— каб выцягнуць ад катаваных пажаданыя паказань-

ні. Вялікія палітычныя працэсы апошніх часоў пабудаваны выключна на правакацыі і зьяўляюцца фабрыкацыяй дэфэнзывы. Цэлы рад моцных дакумантальных фактаў даказвае, што біцьцё і катаваньне палітычных вязьняў у засьценках паліцыі трывае і далей. Весткі аб гэтым даходзяць да нас з усіх вастрогаў Польшчы і паўтараюцца ўва ўсіх выпадках арыштаваньняў.

Сьцьвярджаю, што правакацыя і катаваньні палітычных вязьняў зьяўляецца правілам, засадай—сыстэмай. Таксама сьцьвярджаю, што гэтая сыстэма стасуецца не бяз ведама і ціхай згоды адказных органаў.

Доказам гэтага служыць факт, што на ўсе напраўленьні д. п. Міністра Унутраных Спраў, на інтэрпэляцыі ў справе катаваньня вязьняў дае Міністар пасьля доўгага працягу часу заўсёды аднолькавыя адказы, з якіх вынікае, што паліцыя ня б'е, не катуе і ўсё ў парадку.

Доказам гэтага таксама служыць і тое, што пракурорская ўлада, абавязкам якой зьяўляецца нагляд над вастрогамі і паліцэйскімі арыштамі, адносіцца зусім пасыўна да зьдзекаў над вязьнямі ў вастрозе і дэфэнзыве. Урэшце, што сьледчая ўлада робіць дапрос у прысутнасьці тае самае паліцыі, што біцьцём і катаваньнем вымушала адпаведныя пратаколы паказаньняў. Скаргі вязьняў і іх заявы аб вымаганьні паказаньняў на судзе ня прыносяць ніякай карысьці,— іначай кажучы: дэфэнзыве і пракурорскай уладзе забясьпечана поўная бяскарнасьць з боку адказных органаў за правакацыю і фабрыкаваньне працэсаў і зьдзекі над палітычнымі вязьнямі.

Дзеля вышэй сказанага падаю наступную прапазыцыю:

1) Сойм заклікае ўрад ураз-жа зьвольніць усіх палітычных вязьняў,

2) Сойм заклікае ўрад пацягнуць да судавай адказнасьці ўсіх функцыянэраў палітычнай паліцыі і адміністрацыю вастрогаў, віноўных у стасаваньні гвалтаў да палітычных вязьняў,

3) Сойм заклікае ўрад стварыць новую камісію для рассьледаваньня вастрогаў Польшчы з удзелам прадстаўнікоў сялянска-работніцкай апазыцыі ў Сойме і клясавых работніцка-сялянскіх арганізацыяў.

---

# Інтэрпэляцыя № 27

**паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да п. Міністра Унутраных спраў і Міністра Справядлівасьці ў справе нялюдзкага зьдзеку палітычнай паліцыяй Вялейскага пав. над арыштаванымі беларускімі сялянамі Пятром Дзікам і Янкай Дзікам і ў справе бясправўнага трыманьня гэтых-жа ў вастрозе ў працягу болей двох гадоў і васьмёх месяцаў, лічачы ад дня паданьня гэтай інтэрпэляцыі.**

Дня 28 жніўня 1923 году разам з іншымі былі арыштаваны Пётр Дзік і Янка Дзік—жыхары в. Рабцы, Хаценчыцкай гм., Вялейскага пав., як нібы западозраныя ў нападзе па мястэчка Ілію.

Пятра Дзіка паліцыя біла зараз пасьля арышту ў памешканьні солтыса Ігната Дзіка кіямі, прычым паламала ўсе кіі, служачыя ў той хаце да сушэньня вопраткі. Ад солтыса гналі яго да Хаценчыў і ўсю дарогу білі яго нагайкамі. На пастарунку ў Хаценчыцах катавалі яго адумысна варварскім спосабам: закладалі патроны паміж пальцы і шпагатам так моцна сьціскалі іх, што няшчасны крычаў „на чым сьвет стаіць“ і траціў прытомнасьць.

Білі яго па галаве, па твары і па ўсім целе, выбіраючы найдалікатнайшыя месцы адначасна змушаючы падаваць паказаньні. патрэбныя для паліцыі. Пасьля гэтага курсу катаваньня паліцэйскай інквізіцыі няпрытомны Пётр Дзік згаджаўся на ўсе, што ад яго жадала паліцыя. Напаўжывы з Вялейкі быў перавезены ў вастрог на Лукішкі ў Вільні, дзе да сёньняшняга дня, — значыць тры гады — **выразна: тры гады!** чакае суду.

„Перад гэтым часта — піша нешчасьлівая маці Дзіка — зварочваліся мы па інфармацыі аб арыштаваных да судовых асоб: да сьледаваценя, які заўсёды адказваў нам, што справа перасланa ім да пракурора; калі-ж прасілі мы пракурора, то той адказваў, што справы яшчэ ад сьледаваценя не атрымаў і г. д., — так, што мы, ня гледзячы на нашую прастату і лёгкавернасьць, зразумелі, што ня варта нам да іх езьдзіць, бо так ці іначай нам гэтага вузла не разьвязаць!“...

Фактычна, трудна сказаць, што большае: няшчасьце і балеснасьць мацяры, ці нягоднасьць паліцэйскае ўлады і праступная апяшаласьць — калі ня злая воля — ужо самай судовай ўлады!

Той самы лёс спаткаў жыхара тае-ж вёскі Янку Дзіка. Таксама як і папярэдніка, білі яго неміласэрдна па ўсім целе, закладалі патроны паміж пальцаў, але апрача гэтага зьвязалі яму рукі з нагамі і білі гумовымі кіямі ў пяты да страты прытомнасьці — ўсё гэта рабілі, каб вымусіць ад яго паказаньне.

Усё гэта рабілася пад кіраўніцтвам тагачаснага каманданта пастарунку паліцыі ў Хаценчыцах. Гэты пан і па сёньняшні дзень займае месца ў паліцыі Вялейскага пав.

Пацярпеўшы-ж Янка Дзік па сёньняшні дзень, — ужо хуто скончыцца тры гады! — хворы, пакалечаны, плюючы крывёю і напаўпрытомны чакае вымяру справядлівасьці (!) ў Лукішскім вастрозе ў Вільні.

А ўдома — бедная жонка з малымі дзеткамі на адной дзесяціне зямлі, прыміраючы ад голаду пад цяжарам душачага яе гора, надарма чакае мужа і бацькі, карміцеля сям'і. Горкія сьлёзы вылівае запрацованая — загарованая беларуская сялянка, лье сьлёзы і моцна сьціскае кулакі і пяруны праклядьцяў пасылае апякуном „парадку“ і зацьвярдзелым у няпраўдзе правіцелям „справадлівасьцяй“.

І ў прэсе, і ў сойме шырока гаворыцца аб нарушэньнях права паліцэйскай уладай пры допытах арыштованых, якія ня раз канчаліся натыхмястовай сьмерцяй катаваных (як гэта было з Вайтовічам у мінулым годзе ў Вялейскім пав., што сьцьвердзіў сам міністар унутраных спраў п. Ратайскі). А тымчасам усё засталося пастарому— ды яшчэ зьдзекі і катаваньні паліцыі набіраюць формаў што раз то дзічэйшых і робяцца што раз то болей распаўсюджанымі.

Органы Міністэрства Справядлівасьці ня толькі не рэагуюць на бясправўе паліцыі, але сваімі адносінамі да вязьняў не як да людзей, але толькі як да прадмету і клясовай і нацыянальнай помсты — бяз літасьці паглыбляюць бяздоньне нуды і ўшчэрбку пацярпеўшых, гноячы іх у вастрозе бяз суду цэлымі гадамі — як у апісаным выпадку, тры гады.

Дзеля вышэй паданага падпісаныя пытаюць п. п. Міністраў Унутраных спраў і справядлівасьці:

1) Ці ведаюць яны аб катаваньні паліцыяй Пятра Дзіка і Янкі Дзіка?

2) Ці ведае п. Міністар Справядлівасьці, што памянутыя П. і Я. Дзік знаходзяцца ўжо па тры гады бяз суду ў вастрозе?

3) Ці маняцца п. п. Міністры пакараць віноўных катаваньня арыштаваных і нячуванага адцягваньня судовае справы?

4) Ці не маніцца п. Міністар Справядлівасьці зволніць з вастрогу людзей, напоўжывых і напоўпрытомных з прычыны паліцэйскіх катаваньняў.

Варшава 28. І. 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя № 40

**паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да паноў Міністр. Унутраных Спраў і Справядлівасьці ў справе бясправўнага арыштаваньня, правакацыі і катаваньня беларускіх сялян з в. Крыўляны, Берасьцейскага павету палітычнай паліцыяй ў Камянцу Літоўскім.**

Шляхоцка-буржуазныя ўрады давялі край да руіны, а клясу працоўных да апошняй нуды. Папраўленьне і ўтрыманьне гэтай развальваючайся капіталістычнай дзяржавы стараецца ўрад зваліць выключна на працоўныя клясы. З гэтай мэтай накладаюцца вялізарныя падаткі на сялян, прадоўжываецца дзень працы і памяншаецца заробак работнікам, абрываюцца галодныя пэнсыі ўрадоўцам, уводзіцца ашчаднасьць навет коштам удоў і сірот, інвалідаў, эмэрытаў і г. д.

Адначасна паліцыя стасуе дзікі тэрор, „трымае за морду“, каб такім чынам выключыць ўсялякі супраціў з боку працоўнай клясы. Цэлыя кадры палітычнай паліцыі, узброенай неабмяжаванымі паўнамоцтвамі, зволенанай ад ўсялякай адказнасьці, бяскарна робяць проста садыстычныя оргіі. У выпадках калі забракуе прычэпак да арыштаў і перасьледаваньняў стасуе паліцыя з поўнай свабодай правакацыю. Гэтак прыгатоўваецца матэр'ял для палітычных працэсаў, у родзе нядаўна скончыўшагася вялікага працэсу ў Горадні.

Вось факты. З в. Крыўляны, Дварэцкай гм., Берасьцейскага пав. пішуць нам:

6 лютага сёл. году арыштавалі Мікіфара Хоміча, жыхара вышэй успомненай вёскі і адаслалі на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Літоўскім Крамянцу.

Як пісалі пратакол, арыштаванаму сказалі, што ён зьяўляецца сябром камуністычнай партыі, закідалі яму цэлы рад абвіненьняў і жадалі, каб усё гэтае ён пацьвердзіў і падпісаў гэтакі-ж прапратакол. Дзеля таго, што арыштаваны не згадзіўся — білі яго кулакамі па твары, галаве, грудзёх, плечах, а потым разьдзелі яго да сарочкі і выкінулі за дзьверы і трымалі яго на марозе пад караулам паліцыянта болей гадзіны. Пасьля адаслалі яго ў гмінны арышт у Камянцу, дзе паўтарылася тое самое. На другі дзень зноў прывялі арыштаванага на пастарунак дзяржаўнай паліцыі, загадалі яму адвярнуцца тварам да сьцяны, а тады якісьці нязнаны тып, на жаданьне паліцыі, паказаў на яго пальцам і сказаў, што арыштаваны зьяўляецца сябрам камуністычнай партыі. Потым пачалі пісаць пратакол, які дыктавала паліцыя, а ад арыштаванага жадалі згоды і падпісаньня, ад чаго ён і адмовіўся. Тады яго білі так доўга, што арыштаваны за цану звальненьня ад катаваньня згадзіўся падпісаць усё, чаго жадала паліцыя.

3-га лютага сёл. году арыштавалі ў той жа вёсцы Несьцера Рэкуца і адаслалі яго на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Камянцу Літоўскім. У часе пісаньня пратаколу сказалі арыштаванаму, што ён зьяўляецца сябрам камуністычнай партыі і дыктавалі яму паказаньні для пратаколу, вымагаючы, каб усё паўтараў паводле дыктоўкі паліцыі. Дзеля таго, што ён адмовіўся, — прывялі якогасьць тыпа, якога арыштаваны ніколі перад гэтым ня бачыў і той, паказываючы пальцам на арыштаванага, паўтарыў абвінавачваньні паліцыі. Пасьля гэтага адбылося дыктаваньне арыштаванаму пратаколу і падпісаньне яго.

Гэта адбылося пры наступных абставінах: адзін з паліцыянтаў дыктаваў паказаньні, а два другія (прозьвішча аднаго з іх пачынаецца на літару О) скруцілі арыштаванаму рукі назад і білі яго. Як толькі „badany“ даваў пярэчачыя паказаньні. або не паўтараў за дыктуючым, — гэтыя два білі яго і пагражалі яму страшнымі пыткамі. Гэтае бадаьньне цягнулася датуль, пакуль арыштаваны — стэрарызаваны і папоўжывы — усё паўтараў, што яму дыктавалі і падпісаў напісаны ад яго імя пратакол.

Характэрным ёсьць тое, што пасьля вышэй апісанага факту, арыштаванага паклікалі ў прысьпешаным тэмпе да сьледаваценя, дзе зажадалі пацьвярджэньня напісанага паліцыяй пратаколу, пры чым былі прысутнымі тыя два функцыянэры дзяржаўнай паліцыі, якія катавалі арыштаванага ў часе пісаньня пратаколу.

Не сказалі навет арыштаванаму, што стаіць перад сьледаваценем, пакідаючы яго пры думцы, што гэта дапаўняючае паліцэйскае „badanie“. Дзеля гэтага арыштаваны навучаны сумным досьледам папярэднага „badania“ пацьвярдзіў пратакол паліцыі.

3 лютага арыштавалі ў той-жа вёскі Янку Дзьмітрука і адаслалі на пастарунак дзяржаўнай паліцыі ў Камянцу Літоўскім і тут паўтарылася тая самая гісторыя, што і з папярэднімі арыштаванымі. Паліцыя дыктуе пратакол і б'е, пакуль не даб'ецца свайго. Арыштаванага Дзьмітрука катавалі: „przodownik берасьцейскай экспозытуры Кадук і „przodownik” Камянец-Літоўскага пастарунку № 20. Гэтым мэтадам паліцыя здолела вымусіць ад арыштаванага пацьверджаньня дыктаваных яму паліцыяй паказаньняў.

Апрача таго, прывялі да арыштаванага якіхсьці нязнаных яму людзей, закаваных у кайданы і з завязанымі вачыма і жадалі, каб паказваючы на іх пальцам сцьвярджаў, што яны належаць да камуністычнай партыі. Тут паўтарылася тая самая гісторыя: даюць „баданаму“ воз або правоз — або сцьвярджай, або б'ем. Ізноў тэрорызуюць і б'юць, пакуль не дапнуць свайго. „Badania“ гэтыя рабіў з арыштаваным некалькі разоў якісьць агэнт тайнай паліцыі, прозьвішча якога пачынаецца на літэру О, прычым адбывалася гэта заўсёды каля поўначы, а агэнт быў заўсёды п'яны.

Дзеля вышэй сказанага інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці і надалей будзе цьвердзіць, што паліцыя ня б'е і не правакуе!

2) Ці склонны ён зрабіць ураз-жа сьледзтва ў гэтай справе і прыцягнуць да карнай адказнасьці віноўных у правакацыі і катаваньні?

і п. Міністра Справядлівасьці:

1) Ці ўважае магчымым, каб сьледавацель пісаў пратакол у прысутнасьці паліцыі?

2) Ці і як маніцца рэагаваць на мэтады ўрадаваньня сьледаваценя ў Камянцу-Літоўскім, які пісаў пратакол на арыштаванага Несьцера Рэкуца?

Варшава 22 сакавікаа 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя № 41

**паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады да панаў Міністраў Справядлівасьці і Унутраных Спраў у справе бясправўнага арыштаваньня і дзікага катаваньня і трыманьня пад сьледствам болей двох з паловаю гадоў у вастрозе на Лукішках Арцёма Дзевятнікава і Антона Сьпірідовіча.**

Неаднакратна ўжо мы гаварылі ў цэлым радзе інтэрпэляцыяў, да якіх нячуваных і дзікіх разьмераў даходзіць тэрор польскай улады на землях Заходняй Беларусі. Вось яшчэ некалькі новых фактаў, якія кідаюць прыгнятаючае сьвятло на гэтыя ганебныя адносіны.

З Вялейскага пав. нам пішуць:

А зьвязку з нападам на мястэчка Ілію, які меў месца ўначы з 27 на 28 жніўня 1923 года, арыштавалі 28 жніўня 1923 г. ў фальварку Антонаве, належачым да Хаценчыцкай гміны, Вялейскага пав. — Арцёма Дзевятнікава. Арыштаваньне было зусім беспадстаўным і не магло быць ніякіх западозраньняў у удзеле Дзевятнікава ў вышэй памянутым нападзе. Доказам гэтага служыць тое, што напярэдадні нападу на Ілію г. ё. 27 жніўня Дзевятнікаў працаваў увесь дзень у маёнтку Чарвякі. Выгінаў абады да калёс, бо па рамеслу зьяўляецца бондарам. Позным вечарам рабіў тое самае ўдома. Упраўляючы з м-ку Чарвякі Фэлікс Жароўскі быў у той-жа дзень г. ё. 27 жніўня ў 10 гадз. ўвечары ў хаце арыштаванага і застаў яго ў лазьні пры бондарскай працы.

Таксама Панкрацы Гаманілаў з в. Чарвякі, які начаваў тады на падворку гэтага маёнтку прытоў да арыштаванага перад поўначай — заўважыўшы сьвятло ў вакне лазьні — і таксама застаў яго пры працы. Дзеля гэтага, а таксама і таму, што напад на м. Ілію меў месца каля поўначы, а ад Чарвякоў да м. Іліі 16 вёрст, — выключаецца магчымасьць удзелу Дзевятнікава ў нападзе.

Паміма гэтага яго арыштавалі раніцай 28 жніўня 1923 г., як западозранага ў нападзе і адаслалі на пастарунак дзярж. пал. ў Хаценчыцах. Цэлую ноч з 28 на 29 жніўня катавалі арыштаванага агідным спосабам, хочучы вымусіць ад яго, каб прызнаўся да прыпісванай яму віны. Катавалі паводле прынятага ўжо мэтаду. А іменна: зьвязалі яму рукі і ногі і білі ў пяты лазовымі бізунамі да страты прытомнасьці. Потым білі яго кулакамі ў твар і галаву. Гэтак на пераменку — у пяты і ў твар білі арыштаванага ўсю ноч, дзякуючы чаму твар так спух, што ня можна было навет рысаў пазнаць. На другі дзень перавязьлі скатаванага ў павятовы вастрог у Вялейцы, дзе пратрымалі яго тры тыдні і адаслалі да Вільна, дзе — ў вастрозе на Лукішках — да сёньняшняга дня г. з. два гады і сем месяцаў знаходзіцца пад сьледзтвам.

Таго самага дня арыштавалі таксама Антона Сьпірыдонавіча з в. Чарвякі, Хаценчыцкай гм., Вялейскага пав. Арыштавалі яго таксама ў зьвязку з нападам на м-ка Ілію. Аб беспадстаўнасьці таксама і гэтага арыштаваньня сьведчаць наступныя факты: цэлы дзень напярэдадні нападу арыштаваны працаваў ў лазьні свайго суседа Людвіка Шахраса, прыгатоўваючы абады да калёс. Увечары аж да познай ночы працаваў удома з сваім братам бандаром Кастусём Сьпірыдонавічам, гатовячы на меўшыся адбыцца на другі дзень торг дзеравяныя пасудзіны. Прысутнасьць арыштаванага ўдома і пры працы ў часе нападу на Ілію сцьвердзілі наступныя сьведкі: Пётра Чывілька, Кірыл Траўкоўскі, Янка Мардас, Ігнат Валавік і Кастусь Мардас, — усе з в. Чарвякі.

Арыштаванага адаслалі на пастарунак дзярж. пал. ў Хаценчыцах, дзе яго ганебна катавалі і паддавалі пыткам у працягу ўсяе ночы. Зьвязалі ахвяры рукі рукі і ногі і пачалося традыцыйнае біцьцё ў пяты лазовымі бізунамі да страты прытомнасьці. Апрача таго, білі яго па твары да тае ступені, што ўвесь твар потым быў зусім апухшы. Калолі голкамі над ногці рук, падкладалі пад ногі распаленую бляху і г. д. На другі дзень адвязьлі арыштаванага ў сьледчую экспозытуру ў Вялейцы, дзе зноў паўтарыліся гэтыя катаваньні. Потым адаслалі Сьпірыдонавіча ў Вільню ў вастрог на Лукішках, дзе па сёньняшні дзень г. ё. 31 месяц сядзіць пад сьледзтвам.

Трэба зазначыць, што ахвяра гэтых катаваньняў, Сьпірыдонавіч, зьяўляецца ваенным інвалідам, кульгавы і, як наагул усе беларусы, пазбаўлены рэнты.

Дзеля вышэй сказанага інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці ведае ён аб гэтых дзікіх фактах і аб мэтадзе стасаваным паліцыяй у Хаценчыцах ганебных катаваньняў арыштаваных?

2) Ці маніцца загадаць ураз-жа жорсткае сьледзтва ў гэтай справе?

3) Ці склонны выдаць адпаведны загад, каб ураз-жа пазбавіць урадаваньня і пацягнуць да карнай адказнасьці віноўных катаваньня А. Дзевятнікава і А. Сьпірыдонавіча?

і п. Міністра Справядлівасьці:

1) Ці ўважае магчымым, каб сьледзтва цягнулася болей 30 месяцаў?

2) Ці жаданьне даказаць віну за ўсялякую цану пры браку якіх-нібудзь доказаў можа быць прычынай, каб цягнуць сьледзтва цэлыя гады?

3) Ці склонны выдаць адпаведны загад, каб ураз-жа звольніць беспадстаўна арыштованых Антона Сьпірыдонавіча і Арцёма Дзевятнікава і пацягнуць да адказнасьці віноўных сьледства?

Варшава, 22 сакавіка 1926.

**Інтэрпэлянты.**

---

# Інтэрпэляцыя № 45

**дэпутата Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Справядлівасьці ў справе надужыцьцяў пракураторскае ўлады ў адносінах да вязьняў у Горадні і Наваградку.**

Палітычныя вязьні знаходзяцца пад падвойным надзорам і ўціскам: паліцыі і судова-пракурорскай улады. Паліцыя катуе, а пракурорская ўлада ня толькі гэтае талеруе, але і хавае, пазбаўляючы вязьняў магчымасьці паведаміць блізкіх аб сваім лёсе.

У Горадзенскім вастрозе дагарвае з прычыны зробленых яму паліцыяй ранаў пры катаваньні Антон Сіцько. Пісьмом з дня 7 сакавіка сёл году паведаміў мяне, што напісанае ім мне пісьмо, дзе апісвае свае мукі і катаваньні, якія перанёс у дэфэнзыве,—затрымана пракурорам.

Дзеля гэтага я зьвярнуўся да загадчыка вастрогу ў Горадні, які прыслаў мне наступны адказ:

ВАСТРОГ У ГОРАДНІ
24 сакавіка 1926 г.
№ 1141
Горадня
Дз. Адмін.

Да Пана Дэпутата ў Сойм Юрыя Сабалеўскага. У Варшаве.

У адказ на пісьмо пана пасла з дня 22 сакавіка сёл. году № 23, перасылаю дзьве копіі, з якіх відаць, што пісьмо Пана Пасла за № паштовым 558 даручылі адрэсанту 12 лютага сёл. году пад расьпіску; адказ-жа вязьня Антона Сіцько напраўлены ў Пракурорскую Канцэлярыю разам з маім пісьмом з дня 16 лютага сёл. году за № 162/25 в/г, як пісьмо вязьня, знаходзячагася пад сьледзтвам.

Начальнік вастрогу
(—) Неразборчывы подпіс.

Залучнік I. Копія.

Паквітаваньне. Гэтым квітую атрыманьне заказнога пісьма № паштовы 558 ад Пана Пасла ў Сойм Ю. Сабалеўскага.

Горадня. 12 II. 1926 г.

(—) А. Сіцько.

Даручыў Адміністрацыйны інспэктар:
(—) А. Крамкоўскі.

За згоднасьць
Сэкрэтар: (—) Неразборчывы подпіс.

Залучнік II. Копія.

ПРАКУРОР
пры Акружным Судзе
ў Горадні.
Дн. 3 сакавіка 1926 г.
№ Д. 1091/II/26.

Да пана Начальніка Вастрогу ў Горадні.

У лучнасьці з пісьмом з 16 лютага сёл. году № 162/25 паведамляю, што прысланае для цэнзуры пісьмо вязьня Антона Сіцько, з прычыны яго зьместу пераслаў сёньня да дыспазыцыі Сьледаваценя II вокругі Горадзенскага пав. Дзеля гэтага залучаныя тут пяць 15-ціграшовых паштовых марак зьвярнеце вязьню Сіцько пад расьпіску, якую трэба пераслаць мне.

У/З. Пракурор (—) М. Онікімоўскі,
Сэкрэтар (—) Пашта.

За згоднасьць Сэкрэтар вастрогу:
(—) Неразборчывы подпіс.

А вось другі вязень Грудзінскі піша мне ў пісьме з 2 сакавіка сёл. году — цэнзураваным адміністрацыяй вастрогу, што пракурор сканфіскаваў з нэведамых яму прычын пісьмо, адрасаванае мне, у якім апісаў сваю справу.

Дзеля гэтага падпісаныя пытаюцца п. Міністра Справядлівасьці:

1) Ці склонны ён пацягнуць да адказнасьці Горадзенскага і Наваградзкага пракурораў?

2) Ці і які загад маніцца выдаць, каб палажыць канец бясpraўнай канфіскацыі карэспандэнцыяў вязьняў з блізкімі, прабываючымі на волі?

25, III, 1926 г. Варшава,

**Інтэрпэлянты.**

---

# Прапазыцыя № 42

**паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. у справе безадкладнай помачы беларускім ваенным інвалідам і іх сем'ям.**

Ваенныя інваліды і іх сем'і — беспасрэднія ахвяры апошняй сусьветнай рэзьні — адданы цяпер на ласку голаду і нуды. Як цягнулася вайна, то абяцалі буржуазныя ўрады розных краёў поўнае забясьпечаньне інвалідаў і іх сем'яў. А як скончылася вайна, калі непатрэбны гэтыя масы, якія кроў і жыцьце аддавалі за інтэрэсы клічучага капіталізму — узяла назад буржуазія свае гойныя абяцанкі.

Інвалідзкія ўставы кідаюць вялікім інвалідзкім масам няшчасныя ахлапкі ў пастаці ўставовых рэнтаў, а апрача таго цэлым радам выкрунтасаў у параграфах уставу пакідаюць значную частку інвалідаў паза гэтымі ўставамі.

Асабліва пакрыўджанымі ў гэтым беларускія інваліды, якія пераважна зусім пазбаўлены інвалідзкім рэнтаў. Аграмадная частка інвалідаў засталася наагул не зарэгістраванай. Прычынай гэтага былі перадусім тыя асаблівыя дарожныя варункі, якія пануюць у Заходняй Беларусі, г. ё. вялікая адлегласьць вёсак ад местаў і наагул ад цэнтраў і дзякуючы гэтаму вельмі слабы кантакт з правадаўчымі цэнтрамі. Потым правілы аб неабходнасьці рэгістрацыі ў азначаным часе зусім ня былі апавешчаны ў большай частцы гмінаў. Апрача таго ўва многіх выпадках нясумленнасьць і нежаданьне памагчы і таксама непатрэбная фармалістыка нашай бюракратычнай улады пазбавілі цэлы рад інвалідаў магчымасьці зарэгістравацца. Таксама трэба сказаць, што ў Заходняй Беларусі ўрадавалі г. зв. францускія місіі, якія рабілі рэгістрацыю ваенных інвалідаў. А пасьля не перадалі яны рэгістрацыйнага матэр'ялу адпаведнай польскай уладзе, і яшчэ горай — загубілі цэлы рад дакументаў, што позбавіла магчымасьці цэлыя масы інвалідаў зарэгістравацца другі раз. У рэзультаце гэтага 90% беларускіх інвалідаў знаходзяцца паза інвалідзкім уставам.

Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады падаў ужо пану Маршалку папраўку да абязваючага цяпер інвалідзкага ўставу, каб зьмяніць цяперашні вельмі крыўдзячы інвалідаў устаў. Аднак, неабходна ўраз жа аказаць помач цэламу раду пазбаўленых рэнтаў інвалідаў, бо дэтальны разгляд і ўвядзеньне зьменаў у абавязваючы цяпер устаў вымагае доўгага часу. Да гэтай пары зьвярнуліся да Клюбу Грамады наступныя пазбаўленыя рэнты інваліды:

1) Янка Шчарбіцкі — в. Шарбіцка, гм. Язна, Дзісьненскага пав.
2) Станіслаў Малецкі — Вільня, Завальная 1—8.
3) Міхал Дробняк—Вільня, Архангельская 44—15.
4) Янка Макулік — в. Залобсаў, Даўгінаўскай гм., Вялейскага пав.
5) Аўгень Гімпэль — в. Лучакавіца, Ярэміцкай гм., Наваградзкага пав.
6) Янка Смалонскі — в. Сычавічы, Радашкаўскай гм., Вялейскага пав.
7) Павел Барышчук — в. М.-Обрына, Ярэміцкай гм., Наваградзкага пав.
8) Браніслаў Грыневіч — в. Пажарніца, Даўгінскай гм., Вялейскага пав.
9) Марак Батура — в. Занорач, тае-ж гм., Сьвянцянскага пав.
10) Янка Буто — в. Калодзіна, Зажароцкай гм., Сьвянцянскага пав.
11) Сьцяпан Пушко — в. Вярбіца, Нечнавіцкай гм., Наваградзкага пав.
12) Міхась Місько — в. Маркаво, Лебедзеўскай гм., Вялейскага пав.
13) Азыдор Гавіна — в. Лукавіца, Ярэміцкай гм., Наваградзкага пав.
14) Максіміліян Дылеўскі — м. Маладзечна, Вялейск. пав.
15) Васіль Бусько—в. Пагагарэлкі, Ярэміцкай гм., Наваградз. пав.
16) Мікалай Пракажэня — в. Беразьніца, пошта Рубсана, Касаўскага пав.
17) Цімох Шаўчук — кал. Гайшышкі, Мэйшагольскай гм., Віленскага пав.
18) Антон Драгун — хут. Віктопаль, Жосьнянскай гм., Пастаўскага пав.
19) Антон Качынскі — в, Біскупіца, Ваўкавыск. пав.
20) Арсэн Станоўскі — в. Падзагорье, Любчанск. гм. Наваградзкага пав.
21) Павал Якавюк — кал. Араны, Мэйшагольскай гм., Віленскага пав,
22) Ян Кульвінскі — Вільня, Завальная 1—1.
23) Пятра Хоміх — в. М. Капліца, Верцялішскай гм. Горадзенскага пав.
24) Даніла Аўласевіч — в. Баркаўшчызна, Беніцкай гм., Ашмянскага пав.
25) Сапрун Сарока — в. Турэц, тае-ж гм.
26) Рыгор Пяскоўскі — в. Юхавічы, Лебедзеўскай гм., Вялейскага пав.
27) Расіль Нічыпарук — кал. Гайшышкі, Мэйшагольскай гм., Віленскага пав.
28) Янка Сьпірыдонавіч — в. Брыгідава, Хаценчыцкай гм., Вялейскага пав,
29) Людвік Пэрэх — Вільня, Завальная 1.
30) Казьмер Мац — там-жа.
31) Янка Шулейко — там-жа.
32) Азыдор Мяшкоўскі — там-жа.
33) Рыгор Войцік — в. Турбаўшчызна, Ракаўскай гм., Стаўпецкага пав.
34) Ігнат Руцкі — в. Дакудава, тае-ж гм., Лідзкага пав.
35) Аляксей Касінскі — в. Юхнавічы, Міжаўскай гм., Слонімскага пав.
36) Мікалай Артановіч — в. Ларнічна, Сялецкай гм., Пружанскага пав.
37) Рыгор Фэдарокі — в. Мчонава, Рафчанскай гм., Наваградзкага пав.
38) Якуб Трус — в. Хахулькі, Язьненскай гміны, Дзісьненскага пав,
39) Язэп Балабановіч — в. Беразінка, Дзеравенск. гм., Валожынскага пав.
40) Сьцяпан Сіцько — в. М. Берастэвіца, тае-ж гм., Горадзенскага пав.
41) Тамаш Кашэль — в. Бостынь, Лунінскай гм., Лунінецкага пав.
42) Язэп Варонка — в. Збрыне, Ярэм. гм., Наваградзкага пав.

і жонкі інвалідаў:

43) Зося Васілевіч — в. Памсе, Буцлаўскай гм., Вялейскага пав.
44) Адэля Алісава — в. Рунэйкі, гм. Біскупічы, Ваўкавыскага пав.

Дзеля вышэй сказанага падаем наступную прапазыцыю:

Высокі Сойм ухваліць ураз-жа безадкладна даць помач вышэй памянутым ваенным інвалідам і іх сем'ям.

Варшава 22 сакавіка 1926 г.

---

Выдавец:
Соймавы Клюб Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Друкарня Н. Левін і Сын Вільня, Нямецкая вул. 22.